# Народная Воля

**№ 70 (1883)**

Чацвер, 22 красавіка 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +8...+10, дождж, уначы — +5...+7, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +14...+16, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +14...+16, сонечна, уначы — +4...+6, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +11...+13, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +17...+19, без ападкаў, уначы — +7...+9, дождж; у Магілёве ўдзень — +12...+14, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Чаго збіраецца інтэлігенцыя?

Сёння ў Мінску адбудзецца сход інтэлігенцыі горада па вылучэнні дэлегатаў на II Усебеларускі сход інтэлігенцыі, які мяркуецца правесці ў сталіцы 25 красавіка. Як паведаміў старшыня грамадскай ініцыятывы “Рада беларускай інтэлігенцыі”, вядомы беларускі кінарэжысёр і педагог Уладзімір Колас, на сустрэчы сталічнай інтэлігенцыі таксама будзе абмеркаваны рэгламент правядзення Усебеларускага сходу і праект яго рэалізацыі.

“Сход інтэлігенцыі Мінска не будзе насіць такога шырокага характару, як летась. Шмат у чым гэта звязана са складанай сітуацыяй, у якую пастаўлена ўсё беларускае грамадства. Бо ўсё цяжэй знайсці памяшканне для такіх сустрэч, усё большая колькасць людзей падвяргаецца націску за свае погляды і за праяўленне сваёй грамадзянскай пазіцыі ва ўмовах увядзення кантрактнай сістэмы найму на працу і адзінай дзяржаўнай ідэалогіі”, — зазначыў У.Колас.

Паводле яго слоў, усе гэтыя праблемы будуць у цэнтры дыскусіі дэлегатаў форуму.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Фрадкоў за ўвядзенне ў Беларусі расійскага рубля

Прэм’ер-міністр Расіі Міхаіл Фрадкоў не выключае магчымасці ўвядзення расійскага рубля ў якасці адзінага плацёжнага сродку на тэрыторыі Беларусі з 1 студзеня 2005 года. “Гэта той выпадак, калі гавораць, што надзея паміраe апошняй”, — заявіў Міхаіл Фрадкоў у аўторак па выніках перамоў з прэм’ер-міністрам Беларусі Сяргеем Сідорскім, якія доўжыліся больш за тры гадзіны.

“Відавочна, што пытанне вострае, няпростае, але нам неабходна працягваць працаваць у гэтым кірунку, маючы на ўвазе, што з 1 студзеня 2005 года (Расія і Беларусь) планавалі перайсці на рубель”, — сказаў Фрадкоў, паведамляе РІА “Новости”.

Разам з тым, паводле слоў расійскага прэм’ера, “спатрэбіцца значна больш намаганняў, каб выйсці на ўзгодненае рашэнне”.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Папярэджанні галоўнаму рэдактару і журналісту

Пракурор Баранавічаў Аляксандр Смаль вынес папярэджанні галоўнаму рэдактару грамадска-палітычнага штотыднёвіка “Intex-press” Уладзіміру Янукевічу і карэспандэнту таго ж выдання Марыне Куліковай.

Папярэджанні сталі вынікам скаргі ў пракуратуру старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Віктара Дзічкоўскага. Незадаволенасць гарвыканкама выклікаў артыкул Марыны Куліковай “Скандал в благородном семействе” (№ 11 ад 11 сакавіка 2004). У артыкуле расказваецца аб тым, як адна з “пярвічак” БРСМ у Баранавічах далучылася да незарэгістраванага маладзёжнага руху “Зубр”.

“Папярэджанні пракуратуры я лічу цалкам неабгрунтаванымі, як, уласна, і спасылкі на тыя артыкулы закону, на падставе якіх былі вынесены гэтыя папярэджанні”, — сказаў галоўны рэдактар “Intex-Press” Уладзімір Янукевіч. Таго ж пункту гледжання прытрымліваецца і карэспандэнт Марына Кулікова.

Рэдакцыя збіраецца абскардзіць вынесеныя пракуратурай папярэджанні ў судовым парадку.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**

## Аказваецца, шалеюць і коні!

Незайздросную славу лідэра па распаўсюджванні шаленства ў хатняй жывёлы і сёлета пацвярджае Віцебшчына. Статыстыку выпадкаў захворвання, як ні дзіўна, адкрылі коні.

На працягу аднаго красавіцкага тыдня ў віцебскім спартыўным клубе “Хорс” палі двое коней. Аднаго з іх адправілі ў ветэрынарную акадэмію, дзе за яго труп узяліся са скальпелямі выкладчыкі, студэнты і лабаранты. Але аналізы на шаленства не далі станоўчага выніку. Тым не менш унутраныя органы каня былі на ўсялякі выпадак накіраваны ў сталічны НДІ ветэрынарыі, дзе і вынеслі заключэнне аб тым, што жывёліна загінула менавіта ад віруса шаленства.

Адразу ж пасля гэтага спецыялісты абласнога Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі сталі тэрмінова выяўляць усіх людзей, якія дакраналіся да заражонага каня. Такіх аказалася амаль 50 чалавек. Больш як палове з іх (у тым ліку — чатыром дзецям) прызначана антырабічная вакцынацыя.

Праўда, двое адмовіліся ад балючых уколаў, бо не паверылі, што ў коней можа быць шаленства.

Сумняваецца ў дыягназе і дырэктар клуба “Хорс” Аляксандр Чульба. Але тэарэтычна коні захварэць усё ж-такі маглі, бо ў парк “Мазурына”, дзе знаходзіцца клуб, раз-пораз забягаюць не толькі бадзяжныя сабакі з горада, але і дзікія лісіцы з лесу.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Почему отключали российский телеканал?

**В минувшие субботу и воскресенье, когда по телеканалу «Россия» шли программы «Зеркало» и «Вести недели», телеэкраны в Беларуси светились, но ничего не показывали. Почему?**

Вот какое объяснение дают журналисты российского телевидения на сайте программы “Вести недели”. Публикуем с некоторыми сокращениями.

“По версии белорусских властей, у нас — техническая профилактика. По нашей версии, у них — профилактика политическая. Мы рассказываем в наших программах о последних шагах президента Лукашенко. И вот результат. В среду, 14 апреля, Александр Лукашенко выступал перед парламентом. Уже после официальной части он сказал, что намерен баллотироваться и на третий срок в 2006 году. Его слова донесли до нас информагентства: *"Главный вопрос не в том, чтобы Лукашенко остался впредь у власти, а в том, чтобы меня не упрекнули, что я бросил власть"*.

Так говорил Лукашенко. В чем упрекать его, а в чем нет, решать белорусским избирателям, и только им. Нам интереснее слова президента о вроде бы союзной России: *“Мы, белорусы, относимся к русским и россиянам, к России как к ближайшим родственникам. Это наши самые близкие братья. И мы будем делать все для того, чтобы жить в братской дружбе. Быть вместе нам предначертано самой судьбой. И если Москва перестанет смотреть на Беларусь исключительно через прицел газовой трубы, мы найдем развязку всех имеющихся проблем. Внешняя политика Беларуси является по-настоящему многовекторной. С нашей стороны есть полная готовность к поддержанию конструктивных отношений с Соединенными Штатами Америки”.*

Многовекторность по Лукашенко — глобальна. Дружить со всеми — от Америки до Китая и Индии. А главным приоритетом президент Беларуси назвал вовсе не союз с Россией, а Европейский Союз. В отличие от многих других стран бывшего СССР, ни ЕС, ни НАТО, ни США до сих пор не объявляли о готовности дружить с Лукашенко. Теперь он сам посылает сигнал в Брюссель.

Тем временем из Вашингтона ему сигнализируют по-другому. На Капитолийском холме готовится законопроект, который предусматривает экономические и политические санкции в отношении Минска. Если он будет принят, Александр Лукашенко, его министры и другие чиновники попадут в “черный список” Госдепартамента. *“Им нельзя будет въезжать в США, их семьям не будут давать визы. Ассигнуется 40 миллионов долларов на поддержку демократического движения в Беларуси, неправительственных организаций, на радиовещание, так что это сильный сигнал. Поведение Лукашенко, когда закрываются газеты в Беларуси, арестовывают и судят лидеров оппозиции, накапливает некий отрицательный заряд, и мы уже видим резкую реакцию Конгресса”*, — объясняет американский политолог Ариэль Коэн.

Возможно, перед вами часть ответа на вопрос, почему в Минске отключили вещание нашего канала. Александр Лукашенко вряд ли хотел, чтобы соотечественники узнали, как в реальности относятся к его режиму те, кого он уже записал в новые друзья.

Неприятные для Лукашенко вести пришли из Женевы. В пятницу, 16 апреля, Комиссия ООН по правам человека приняла резолюцию, осуждающую несоблюдение прав человека в Беларуси. За проект, внесенный Евросоюзом и США, проголосовали 23 страны из 53, 17 воздержались и только 13 - против. В резолюции выражена глубокая озабоченность сообщениями о причастности высших должностных лиц республики к насильственному исчезновению или казни без судебного разбирательства трех политических противников нынешних властей и одного журналиста".

* * *

*Это мнение российской стороны. Нельзя принять его за основу, не увидев сюжет, о котором идет разговор. А потому редакция “Народной воли” решила представить своим читателям текст сюжета передачи “Зеркало”, касающегося А.Лукашенко и его политики.*

# О чем говорили Николай Сванидзе и участники его передачи

**ВЕДУЩИЙ:**

— В среду, 14 апреля, в Минске Александр Лукашенко выступил с ежегодным посланием Президента Республики Беларусь Национальному Собранию и белорусскому народу.

Послание президента парламенту — всегда и везде всеобъемлющий и основополагающий документ. Это план развития страны на год, а иногда и не на один. Александр Лукашенко высказался если не обо всем, то о многом.

Александр Лукашенко, президент Беларуси: **(идет зрительный ряд — Ред.)** *“Что касается самогоноварения. У нас так развернули борьбу против самогоноварения, что этот аппарат забрали, бормотуху эту забрали, до определенного места не довезли — всё выпили те, кто забрали. Поэтому не надо доводить некоторые процессы до абсурда. Больше спрашивайте за то, где выпил, сколько выпил, с кем выпил и в какое время выпил. Жизнь же уже определила. Мы все равно людям рот не завяжем”.*

Лукашенко ставил задачи прямо. В Национальном собрании республики он хотел бы видеть 40% женщин, не больше и не меньше. На Олимпиаде в Афинах белорусская команда должна завоевать ровно 25 медалей. Но это, в конце концов, внутренние белорусские дела, и касается это только белорусских женщин и белорусских спортсменов. Россиянам наиболее интересна международная часть доклада Лукашенко. Сразу бросается в глаза, что об отношениях с Евросоюзом Лукашенко говорит раньше, чем об отношениях с Россией. Официальная традиция: чем тема выше по тексту, тем она приоритетнее. Это железное правило касается, кстати, и людей. В свое время американцы безошибочно и легко узнавали страшную тайну: соотношение сил и близость к телу генсека в нашем или китайском Политбюро по порядку упоминания его членов в официальном протоколе. И по месту у гроба предыдущего генсека.

**Павел БЫКОВСКИЙ, зав. отделом политики еженедельника “Белорусский рынок” (в кадре):**

*“По поводу отношений с Россией чувствовался холод, потому что несколько исподволь критиковалась позиция России. Говорилось о том, что проект конституционного акта, который сейчас существует, судя по всему, на референдуме принимать не надо, потому что он очень слабый, а, соответственно, не нужно выносить его на референдум, а нужно якобы готовить другой конституционный акт. Есть определенные акценты, и я думаю, что белорусские чиновники уже определили, в чем сейчас главная "фишка" белорусской политики".*

**ВЕДУЩИЙ:**

— Поднимая тему Евросоюза над темой России, президент Беларуси демонстративно дает понять, кто для него и его страны важнее. Что касается содержательной части, то Лукашенко произнес такие слова: “Очевидно одно: с объединенной Европой бы должны иметь не просто хорошие, а очень хорошие отношения”. И добавил, что “с ЕС надо жить, как с родней, — в мире и согласии”. Ничего похожего по дружелюбию Лукашенко в отношении ЕС до сих пор не произносил. Что же касается России, то Лукашенко, в частности, заявил: *“Мы, белорусы, относимся к русским и россиянам, к России, как к ближайшим родственникам. Это наши самые близкие братья. И мы будем делать все для того, чтобы жить в братской дружбе. Быть вместе нам предначертано самой судьбой. И если Москва перестанет смотреть на Беларусь исключительно через прицел газовой трубы, мы найдем развязку всех имеющихся проблем. Мы ответственные люди и в состоянии решить все проблемы, которые сегодня существуют. Тем более перед теми вызовами, перед которыми мы сегодня стоим лицом к лицу, с которыми мы сегодня, к сожалению, столкнулись. Внешняя политика Беларуси является по-настоящему многовекторной. С нашей стороны есть полная готовность к поддержанию конструктивных отношений с Соединенными Штатами Америки”.*

За братьев, конечно, спасибо. Но это не Лукашенко придумал. А вот насчет “прицела газовой трубы” — это яркий образ, который делает честь красноречию Александра Григорьевича, но плохо сочетается с ритуальными словами о братстве. И упоминание — здесь же, чтобы не было иллюзий, — о многовекторности внешней политики. Мол, на вас, братья, свет клином не сошелся. Новые вызовы — это, конечно, про НАТО. Это тоже элемент шантажа, причем новый. То есть и мы можем смазать пятки не хуже прибалтов. И сразу про Соединенные Штаты — это уже для бестолковых. Комментарий к этому разделу главного за год выступления президента Белоруссии может быть только один — мелкий шантаж. В “Зеркале” нам уже много раз приходилось говорить: Лукашенко реально не хочет интеграции с Россией, но всякий раз, когда ему это выгодно, он достает карту интеграции из рукава, а когда невыгодно — прячет ее обратно.

**Павел КОЗЛОВСКИЙ, министр обороны Беларуси в 1992-1994 гг.:**

*“Ситуация связана прежде всего с шараханием Лукашенко от его неустойчивого положения в международном сообществе. Лукашенко был активным сторонником союза России и Беларуси. Он подчеркивал, что он главный интегратор, центр духовной нации в Белоруссии, он чуть ли не мессия великого славянского единства. Но все его последние шаги показали, что здесь он терпит полный провал из-за своей политики, из-за своего поведения”.*

**ВЕДУЩИЙ:**

— Долгие годы Лукашенко, обнимаясь с Россией, элементарно разводил нас на деньги. То есть Лукашенко брал деньги за любовь. Если бы любовь измерялась в денежном эквиваленте, то любовь Лукашенко к России можно было бы признать просто безумной. Но, как знают взрослые люди, всё проходит. Прошло и у Лукашенко, как только Путин дал ему понять, что деньги любят счет, а свои поцелуйчики он может оставить при себе.

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО, председатель Объединенной гражданской партии Беларуси:**

*“Вчера белорусское телевидение — а оно является президентским, так определил Александр Лукашенко, — критиковало не кого бы то ни было, а США и Европейский Союз за то, что они инициировали принятие специальной резолюции в Комитете по правам человека ООН по Беларуси”. Очень жесткой резолюции. Поэтому позавчера была ориентация на Европейский Союз, а вчера уже были выступления против Европейского Союза. Все упирается в политику самоизоляции. Это действительно есть суть внешней политики Александра Лукашенко. И это сегодня чувствуют и на Западе, и на Востоке".*

**ВЕДУЩИЙ:**

— На самом деле Александру Григорьевичу Лукашенко действительно глубоко плевать и на Россию, и на Запад, и на Восток.

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО:**

*“Александр Лукашенко называет себя православным атеистом, но тем не менее он иногда ходит в кафедральный собор. На Пасху. Идет репортаж: Лукашенко приходит в кафедральный собор, паства его встречает, приветствует возгласами "Христос Воскрес!" Александр Григорьевич положил руку в область сердца, склонил голову и тихо сказал: “Спасибо”.*

**ВЕДУЩИЙ:**

— Лукашенко очень хочет избраться на третий срок. Вот что он сказал: “Главный вопрос — не в том, чтобы Лукашенко остался у власти, а в том, чтобы меня не упрекнули, что я бросил власть”.

**Ярослав РОМАНЧУК, ведущий эксперт фонда “Стратегия” (Беларусь):**

*“Я думаю, что его решение избираться или не избираться на третий срок в большой степени будет зависеть от консолидации всех стран, которые представляют международное сообщество. И если мы видим, что позиция официального Минска консолидировала Европейский Союз и США, то, я думаю, если так дальше пойдет, то мы вскоре увидим и заявление, подписанное тремя участниками процесса — Европейским Союзом, США и Россией. И в этом контексте, я думаю, шансы Лукашенко избраться на третий срок будут гораздо меньше, потому что белорусские люди даже при той информационной изоляции, которая у нас сегодня есть, задумаются: если мир выражает такую консолидированную позицию, значит, с белорусской властью что-то не так”.*

* * *

*Стоило ли из-за такого сюжета «вырубать» российский телеканал? Пусть на этот вопрос ответят сами читатели.*

# Госць прэзідэнта

*З нагоды выставы ў Мінску твораў расійскага мастака А.Шылава*

А.Лукашэнка і А.Шылаў у галерэі мастака ў Маскве.

Разважаючы пра сённяшні стан беларускай культуры, нельга не пагадзіцца з думкай, што Расія, нядаўні манапаліст-гегемон у галіне ідэалогіі і культуры для адной шостай часткі свету, так хутка сыходзіць з нашай культурніцкай прасторы, што мы самі не паспяваем запоўніць чымсьці вартым прагал, які ўтварыўся.

Трывалая культурніцкая прысутнасць на чужой зямлі — гэта раскоша, якую можа дазволіць сабе толькі краіна багатая і духоўна моцная. Сённяшнюю Расію наўрад ці можна такою лічыць. Яна сама не ведае, куды ісці, а тым болей — весці іншых. Адсюль — страта ўплыву на колішнія “нацыянальныя ўскраіны”. А паколькі прырода, у тым ліку і сацыяльная, не прымае пустэчы, тое месца ў нашай свядомасці, якое раней займала расійская класіка, запаўняецца творамі-аднадзёнкамі, папсою самага рознага паходжання, але з большага імпартнай, з той жа Расіі. Гэтаму спрыяе і дзяржаўная палітыка ў галіне культуры. Бо спадар прэзідэнт і, адпаведна, ягонае асяроддзе ў лепшым выпадку падазрона, а часцей агрэсіўна ставяцца да кожнай праявы беларушчыны. Гэта натуральная рэакцыя на незразумелае. Ад незнаёмага найперш чакаеш кепскага. А ўсё, што сыходзіць з Масквы, пэўная катэгорыя нашых грамадзян лічыць эталонам якасці.

З суседзямі трэба сябраваць, і самі па сабе міжнародныя кантакты ў галіне культуры — рэч патрэбная. Кепска, калі гэтым падмяняецца клопат пра ўласную культуру, пра сваё нацыянальнае мастацтва. Тым больш, калі беларускаму гледачу пад выглядам сусветнай сенсацыі прапаноўваюць леташні снег, ці, як казаў расійскі класік, “осетрину второй свежести”. Яшчэ можна зразумець, калі летась афіцыйныя СМІ называлі “падзеяй года” выставу рускага жывапісу з Траццякоўскай галерэі у Нацыянальным мастацкім музеі. Зрэшты, Траццякоўка — сусветнавядомы музей. Гэта той узровень кантактаў, які надае вагу і нашай нацыянальнай скарбніцы. Іншая рэч, калі Нацыянальны мастацкі музей пускае ў свае сцены выставу Аляксандра Шылава. Я не маю нічога супраць гэтага жывапісца, але, улічваючы ягоны сапраўдны статус, а не штучна створаны імідж, міжволі падумаеш: ці не замнога гонару?

Можна зразумець дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі спадара Пракапцова. Музей — не завод, але таксама мусіць зарабляць сякія-такія грошы. Міністэрства патрабуе. Колькі год таму давялося прымаць у музеі выставу маскоўскага мастака-дылетанта, бо спонсар гэтай няздары ў выглядзе кампенсацыі за тое, што кіраўніцтва музея заплюшчыла вочы на якасць твораў і статус мастака, паклаў паркет у адной з залаў. Такі спосаб вырашэння матэрыяльных праблем музея падаецца сёння больш надзейным, чым выпрошванне грошай у тых, чый службовы абавязак — апекаваць культуру. Мастак Аляксандр Шылаў модны ў Маскве, раскручаны па Расіі і за яе межамі. Ягоныя творы экспанаваліся ў ФРГ, Партугаліі, Францыі, Японіі, Арабскіх Эміратах, Канадзе. У Маскве, на Знаменцы, ён мае ўласную галерэю. Кажуць, што гэты асабняк напачатку прызначаўся для Музея выяўленчага мастацтва імя А.С.Пушкіна, якому нестае экспазіцыйных плошчаў, але Дзяржаўная дума і ўрад Масквы вырашылі, што Шылаву ён патрэбны больш. Аляксандр Шылаў мае званне народнага мастака СССР, акадэміка Расійскай акадэміі мастацтваў, ордэн “За заслугі перад Айчынай”. На свае шэсцьдзесят год мастак мае амаль усе рэгаліі, якімі толькі можа быць ушанаваны ў сённяшняй Расіі прадстаўнік творчай прафесіі.

А. Лукашэнка, наведаўшы галерэю А. Шылава, пакінуў такі запіс у кнізе водгукаў: *“Высочайший реализм! Спасибо”.* Да юбілею А. Шылаў атрымаў ад Аляксандра Рыгоравіча ордэн Францыска Скарыны “за личный вклад в укрепление дружбы и сотрудничества между народами Беларуси и России”.

Можна парадавацца за мастака, які пры жыцці мае тое, што творца часта атрымлівае толькі пасля смерці — афіцыйнае прызнанне. Але нагадаю, што калі вялікаму французскаму рэалісту Гюставу Курбэ быў прапанаваны ордэн Ганаровага легіёну, ён адмовіўся ад узнагароды, бо лічыў, што ўлада не мае права лезці ў мастакоўскія справы, не мае права ні ўзнагароджваць, ні караць мастака. Думка, можа, і спрэчная, але цікавая...

А. Шылаў належыць да тых адмыслоўцаў, якія раней за іншых адчулі, зразумелі, што “сацыялістычны рэалізм” сваю ролю ў гісторыі і мастацтве адыграў і трэба арыентавацца на новага замоўцу і новыя, рынкавыя, стасункі ў мастацтве. Напрыканцы 70-х ён пачынае пісаць партрэты маскоўскай эліты, капіруючы прыдворны стыль XVIII стагоддзя. Нашчадкам пралетарыяў гэтае “ноу-хау” прыйшлося даспадобы. Прыемна адчуць сябе дваранствам Екацярынінскай пары, не губляючы пры гэтым прывілеяў савецкай намеклатуры. Гэтаму стылю, гэтаму напрамку мастак застаецца верным і дагэтуль. Па сутнасці, гэта той жа “сацрэалізм”, хіба што адаптаваны да новых умоў. Праўда, час ад часу мастак робіць сёе-тое ў стылі крытычнага рэалізму перасоўнікаў, але ён добра адчувае мяжу, што ў сённяшняй Расіі крытыкаваць можна, а што — не.

Не дзіўна, што такое мастацтва зацікавіла галоўнага беларускага арбітра прыгажосці. Гэта прыклад для беларускіх творцаў, на такое мастацтва ў беларускай казне грошы знойдуцца. Нездарма мінскім школьнікам прапісана наведаць гэтую выставу ў абавязковым парадку, а настаўнікам зрабіць справаздачу за “культпаход” перад начальствам. Нібыта гаворка ідзе пра выдзяленне кантынгенту на першамайскую дэманстрацыю.

Прафесіяналы, увогуле дасведчаныя людзі да творчасці А. Шылава ставяцца крытычна. Адных раздражняе, што ён шырока карыстаецца фатаграфіяй, а гэта сяарод партрэтыстаў лічыцца кепскім густам. Другія ставяць пад сумнеў ягоны інтэлект пасля заяў накшталт: *“Считаю, совершено преступление, что распался Советский Союз. Это преступление века. Иван Грозный за свое правление в пять раз увеличил территорию России, а мы в одночасье все уничтожили”.* Тыя, хто непасрэдна працаваў з мастаком над экспазіцыяй ў нашым Нацыянальным мастацкім музеі, адзначаюць ягоны капрызны характар і манію велічы.

І ўсё ж я раю выставу А.Шылава ў Нацыянальным мастацкім музеі наведаць. Гэтым вы дапаможаце нашаму музею матэрыяльна. Толькі, калі ласка, памятайце, што жывапіс А. Шылава — гэта далёка не лепшае, што ёсць у рускім мастацтве. Каб пераканацца ў гэтым, зазірніце ў залы пастаяннай экспазіцыі, дзе прадстаўлены сапраўдны жывапіс XVIII стагоддзя.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## Найбуйнейшы ва Усходняй Еўропе

*У Маскве, у раёне аэрапорта “Шарамецьева”, адкрыўся найбуйнейшы ва Усходняй Еўропе сэрвісны цэнтр Мінскага аўтамабільнага завода.*

Яго плошча перавышае 3 тыс. кв.м, абсталяванне дазваляе абслугоўваць адначасова больш за 50 грузавікоў “МАЗ” розных мадыфікацый. Пры гэтым прапануецца ўвесь комплекс паслуг па капітальным рамонце грузавікоў і рухавікоў, паведаміла прэс-служба Беларускага пасольства ў Маскве.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Зарэгістраваны 300-ы выпадак ВІЧ-інфекцыі

*У Брэсцкай вобласці ў красавіку зарэгістраваны 300-ы выпадак ВІЧ-інфекцыі.*

Усяго за 3 месяцы 2004 года на Брэстчыне выяўлены 21 ВІЧ-пазітыўны. Як паведаміла намеснік галоўнага ўрача абласнога Цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Людміла Рудая, цяпер на пацвярджэнні ў Мінску знаходзяцца яшчэ 8 аналізаў крыві з падазрэннем на ВІЧ-інфекцыю.

Самая вялікая колькасць інфіцыраваных (136) выяўлена ў Пінску. Далей ідуць Баранавічы (41 выпадак) і Брэст (39 выпадкаў). У вобласці ад ВІЧ-інфіцыраваных маці нарадзіліся 10 ВІЧ-пазітыўных дзяцей.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## У мінулыя выхадныя ратавальнікі тройчы выязджалі для збору ртуці

Спярша небяспечны метал знайшлі жыхары вёскі Высачаны Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці. На складзе мясцовай гаспадаркі “Крынкі” былі знойдзены 4 трэснутыя тэрмометры для вымярэння тэмпературы паветра, з якіх выцекла ртуць. Ратавальнікі сабралі 200 грамаў небяспечнага металу.

У той жа дзень у Бабруйску пры ўваходзе ў пад’езд жылога дома на вуліцы Інтэрнацыянальнай мясцовыя жыхары заўважылі шарыкі ртуці. Разам са ртуцеўтрымальнымі адходамі ратавальнікі сабралі крыху больш за два кілаграмы ртуці. Плошча перад пад’ездам, на якой знаходзілася разлітая ртуць, была апрацавана спецыяльным саставам. Напярэдадні, у двары гэтага ж дома ратавальнікі сабралі 2,5 кілаграма ртуці і правялі дэмеркурызацыю месца разліву.

І, нарэшце, 20 красавіка ў беларускай сталіцы была знойдзена герметычна закрытая ёмістасць з ртуццю вагой каля 20 грамаў. Шкляная колба знойдзена ў двары жылога дома на праспекце Скарыны. Ртуць канфіскавана для утылізацыі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

ПУЛЬС

## Чатыры гісторыі кахання

*21—25 красавіка на трох тэатральных пляцоўках сталіцы прэзентаваны праект "Чатыры гісторыі кахання ад Валянціны Ераньковай", прысвечаны юбілею рэжысёра.*

Можна ўбачыць "Валянцінаў дзень" паводле п'есы расійскага драматурга, "Тата, тата, бедны тата! Ты не вылезеш са шкапа... Бо павешаны ты мамай між сукенкай і піжамай" паводле п'есы А.Капіта, "Дзівакі" Максіма Горкага і дзіцячы мюзікл "Гісторыя кахання Паласатага Ката і сеньярыты Ластаўкі".

Спектаклі пройдуць на сцэнах клуба імя Дзяржынскага, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Горкага і на эксперыментальнай сцэне Тэатра юнага гледача.

## Канцэрт «Душа Амерыкі»

У канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (БДАМ) адбыўся канцэрт "Душа Амерыкі" з удзелам амерыканскіх музыкантаў — піяніста і мастацкага кіраўніка асацыяцыі "Галасы Амерыкі" Джона Фергюсана і вакаліста, дырыжора Айры Сполдынга — і хору БДАМ. У праграме канцэрта прагучалі творы Раланда Хейса і ўрыўкі з оперы Гершвіна "Поргі і Бэс".

"Галасы Амерыкі" штогод праводзяць каля 100 канцэртаў, майстар-класаў і семінараў больш як у 30 краінах свету.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Мэта «Арт-вакацыі»

З 21 па 23 красавіка ў Мінску праходзіць заключны этап рэспубліканскага фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці навучэнцаў прафесійна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў "Арт-вакацыі".

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Лепшыя прадпрымальнікі года

*40 індывідуальных прадпрымальнікаў Віцебскай вобласці сталі лаўрэатамі штогадовага абласнога конкурсу "Найлепшы прадпрымальнік года".*

Найлепшым фермерам вобласці прызнаны Віктар Палякоў з Аршанскага раёна, найлепшым прадпрымальнікам-мецэнатам — Юрый Тухто з Наваполацка, найлепшым прадпрымальнікам-экспарцёрам — жыхар абласнога цэнтра Віктар Фарбер.

Паводле афіцыйных звестак, у Віцебскай вобласці працуюць 23.888 індывідуальных прадпрымальнікаў і 7529 недзяржаўных прадпрыемстваў. Летась сплачаныя індывідуальнымі прадпрымальнікамі падаткі і зборы ў суме 37,814 мільярда рублёў склалі 2,9 працэнта агульных паступленняў у бюджэт Віцебскай вобласці.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Крок хімікаў

Аб'ём вытворчасці прадукцыі на прадпрыемствах хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці Беларусі ў першым квартале павялічыўся на 16,2% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года і склаў 1 трлн. 176 млрд. рублёў.

Прадпрыемствамі галіны выраблена 1 млн. 515 тыс. тон мінеральных угнаенняў, што на 20,9% перавышае паказчык студзеня — сакавіка 2003 года. Пры гэтым выпуск калійных і азотных угнаенняў павялічыўся на 21,7% і 10,5% адпаведна, фосфарных — больш чым у паўтара раза.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Якая музыка гучала!

*Авацыяй аддзякавала віцебская публіка за высокае майстэрства сімфанічнаму аркестру "Маладая Беларусь". Ён, як вядома, створаны са студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі яе рэктарам Міхаілам Казінцом, які адначасова з'яўляецца дырыжорам згаданага ансамбля.*

Амаль 10 хвілін зала стоячы апладзіравала выдатнаму маладзёжнаму калектыву, які ўпрыгожыў сваім выступленнем адкрыццё V рэспубліканскага фестывалю фартэпіяннай музыкі, што на працягу двух дзён праходзіў у памяшканні Віцебскага музычнага вучылішча імя І.Салерцінскага.

Гасцей са сталіцы, сярод якіх былі чыноўнікі Мінкульта, вельмі здзівіла, што да фестывалю не праявілі ўвагі электронныя СМІ. Ва ўсялякім разе на мерапрыемстве не было заўважана ніводнай здымачнай камеры. Так што зоркавы час аркестра "Маладая Беларусь" у багатым на музычныя традыцыі Віцебску зафіксаваць для гісторыі давялося, бадай, толькі газеце "Народная воля".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЭКСКЛЮЗИВ

*Сергей КАРА-МУРЗА:*

# «Даже если убить нелюбимую жену, Софи Лорен в постели не появится...»

*На днях в актовом зале лицея БГУ с лекцией о средствах, способах и последствиях манипуляции сознанием выступил специально приехавший для этого из России Сергей Георгиевич Кара-Мурза, автор популярной книги на эту тему. Перед лекцией профессор любезно согласился дать небольшое интервью корреспонденту "Народной воли".*

**— Сергей Георгиевич, Вы окончили факультет химии, учились в аспирантуре на химфаке, защитили кандидатскую по химии, но занимаетесь политологией, экономикой, даже психологией... Почему?**

— Да просто бьет по нам, по нашим головам, экономика, психология и прочее. Надо както отбиваться, а профессионалы плохо помогают, приходится на самообслуживание переходить... *(Смеется.)*

**— А почему Вы решили приехать в Беларусь, ведь, насколько мне известно, лекция Ваша будет абсолютно бесплатной, значит, и визит носит скорее благотворительный характер?**

— Характер взаимопомощи, я бы сказал. Я посмотрю, как ваши студенты слушают, узнаю, что они думают. Это мне поможет увидеть изъяны в своих воззрениях. Кроме того, Беларусь нам не чужая, придет момент, и с вас какую-нибудь помощь сорвем... *(Смеется.)*

**— Вы в некоторых своих книгах с любовью отзываетесь о советском строе. Беларусь же в последнее время все чаще называют заповедником коммунизма...**

— Все это условные понятия. Коммунизм, заповедник — это метафоры, но раз так говорят, значит, основания для этого есть. Причем называют, наверное, как сторонники этого политического строя, так и противники. Если их мнения сходятся, значит, какая-то истина найдена.

**— А Ваше личное мнение на этот счет?**

— У меня другая метафора, своя. Заповедник — это часть природы, где ей, природе, позволено жить в соответствии с собственным устройством. Заповедника сейчас быть не может, поскольку многие реформы оказали очень мощное воздействие на его "микроклимат". Сейчас это уже кусок земли, где власть остановила некоторые процессы навсегда, что-то временно заморозила, что-то восстановила из старого.

**— По-вашему, это хорошо?**

— Это дает время людям подумать, успокоиться, "подкормиться", а затем на свежую голову решить свою дальнейшую судьбу. Однако надолго заморозить процессы изменения невозможно, никаких сил не хватит. Поэтому власть должна активно учиться как-то овладевать ими: либо корректировать те, что ее не устраивают, либо принимать все так, как есть. Если мы это время "затишья" не используем, внуки нас проклянут.

**— В своей "Белой книге" Вы рассказываете о реформах в России, которые проводились с 1991-го по 2001 год. Что Вы можете сказать о реформах этого периода в Беларуси?**

— Из того, что я знаю, сравнивая и домысливая, я могу вывести главное отличие между проведением реформ в России и Беларуси. У вас более распространенным явлением оказался здравый смысл так называемого крестьянского типа. Ведь горожанин живет в искусственной среде, у него всегда есть иллюзия безопасности, он даже и не думает, как устроены трубы водоснабжения, считая, что вода из крана шла и будет идти всегда. Крестьянин же должен топить печку, брать воду из колодца. Он знает, что жизнь наша хрупка и много сил тратит разумно на то, чтобы обеспечить себе жизнь на будущее. Он как минимум смотрит на годовой цикл вперед. Вот так и в вашей стране, как мне кажется, больше сил было затрачено на обеспечение гарантии нормальной жизни в перспективе. Из-за этого, может быть, сейчас не все довольны своим благосостоянием, экономикой, не получают, так сказать, активные материальные блага. У нас в России заметная часть населения их получила. Однако все это время мы, говоря простым языком, "проедали" будущее. Поэтому сейчас многие проблемы очень остро начинают вставать перед нами.

**— А то, что ваша экономика больше похожа на рыночную, а наша все еще тяготеет к командно-административным методам?**

— Наша советская экономика была создана по этому принципу. Она напоминала крестьянский двор, правда, довольно большой. И мы все так до конца и не смогли понять эту модель, пока не начали ее разрушать. Только тогда возникли вещи, не предсказанные теорией и немыслимые для западных экспертов. К примеру, всем известные градообразующие предприятия. Для Запада это полный абсурд. Предприятие должно производить продукцию и получать за это прибыль, а не отапливать прачечные. И такие вещи у нас сплошь и рядом. Чтобы перестроиться на рыночную основу, требовалось это все разрушить. А тот же крестьянский здравый смысл гласит: если не знаешь, как сделать новое, не нужно ломать старое, пусть поработает так, а ты, понаблюдав, решишь, что нужно демонтировать, а что надстроить. Как-то ОБСЕ проводило совещание в Москве, где собрались почти все видные деятели белорусской аппозиции. Во время моего доклада встал вопрос о ликвидации советских заводов-монстров. Я на это ответил: "Это все равно, как если бы вам не нравилась собственная жена, а нравилась Софи Лорен. Ведь даже если вы убьете жену, от этого Софи Лорен в постели у вас не появится. Нужно что-то еще, чтобы ее заманить".




**— Давайте поговорим о союзе Беларуси и России. Процесс единения длится уже около 10 лет. Есть ли смысл продолжать попытки сблизить уже такие разные и по экономике и по политическому курсу государства?**

— Фундаментальные основы для сближения, разумеется, есть, и они взаимовыгодны. В длительной перспективе эта выгода выходит даже за рамки экономической. Как Россия, так и Беларусь еще не устоявшиеся во всех отношениях страны. Они находятся в состоянии хаоса, который пока не застыл в определенный порядок. Беларусь для нас является неким зеркалом, в котором можно видеть иной проект и разумно думать, что тебе подходит, что возможно, что невозможно. Поэтому даже в этом смысле нам не надо удаляться друг от друга.

**— Вы, наверное, знаете, что сейчас в Беларуси взят курс на официальную пропаганду идеологии. Попахивает нафталином...**

— Уже то, что попахивает, хороший признак. Вы по крайней мере это знаете и не съедите этот порошок. А вот порошок, который не пахнет, вы можете съесть и отравиться. Если вам внедряют идеологию открыто, это гораздо лучше, чем когда ее вам внедряют, и вы этого не замечаете.

**— А насколько это целесообразно, по-вашему?**

— Нет страны без идеологии. Идеология — изложение некоторых понятий о добре и зле, о разрешенных и запрещенных в данном обществе вещах. Есть различные технологии идеологического воздействия. Первый — так называемый тиранический метод. Эта идеология "пахнет нафталином". Вам ее навязывают открыто. Вот вам, девочки и мальчики, нормы, которым на людях, в обществе вы должны следовать. Дома на кухне или под одеялом вы можете говорить все, что угодно, а вот при всех будьте добры придерживаться. Другой метод — демократический, где как раз и используются технологии манипуляции сознанием. Идеология вам втюхивается так, чтобы вы этого не замечаете. Это приятно, вы чувствуете себя свободными. Различаются эти два метода, как кнут и наркотик. Известны плюсы и минусы и того, и другого. А что кому нравится — дело вкуса.

**— Политологи очень любят делать прогнозы на будущее. Каково оно, по-вашему, у Беларуси?**

— Я могу изложить только некоторую свою веру. Я считаю, что объективно и Беларусь, и Россия имеют пока что и материальные, и культурные, и человеческие ресурсы для того, чтобы преодолеть кризис и выйти на состояние общества качественно более высокое, чем советское. Но что это все будет реализовано, гарантий нет... Хотя надеюсь, что мы выберемся, и по крайней мере на целый исторический период у нас будет общество с большой долей счастья. До следующего кризиса...

**Мария РУСАКОВИЧ.**

## Пяцігодка «Velcom»

*За пяць гадоў працы на беларускім рынку СП ТАА "Мабільная лічбавая сувязь" ("Velcom") інвеставала ў эканоміку Беларусі каля 200 мільёнаў долараў ЗША, у выглядзе падаткаў у бюджэт было пералічана 66,8 мільёна долараў ЗША ў эквіваленце, створана больш за 800 працоўных месцаў.*

За апошні год кампанія "Velcom" увяла ў эксплуатацыю чатыры рэгіянальныя камутатары — у Магілёве, Брэсце, Гродне і Гомелі. Істотна пашырылася зона дзеяння сеткі. "Velcom" працуе на тэрыторыі, дзе пражывае 95 працэнтаў гарадскога насельніцтва краіны.

У самы бліжэйшы час на карце пакрыцця найбуйнейшага аператара з'явяцца яшчэ каля 30 населеных пунктаў, магістралі і прыгарады буйных гарадоў, а таксама месцы масавага адпачынку беларусаў. Паслугамі сувязі кампаніі карыстаюцца больш за 720 тысяч чалавек.

**Аляксей АРЭШКА.**

ПРОИСШЕСТВИЯ

## Открытие 24-го байкерского сезона закончилось несчастным случаем

*Трагически погиб Андрей Юхновец (Фидель) — руководитель клуба минских экстремалов и проекта extreme.by, байкер. Это произошло 19 апреля около шести часов вечера на парковке возле территории выставочного комплекса "Экспобел".*

По словам председателя минского мотоклуба "Железные братья" **Валерия Будкевича,** все действо уже почти закончилось, когда некоторые из байкеров захотели показать свое мастерство.

"Ко мне подъехал Фидель и спросил, можно ли показать свое умение езды на заднем колесе, — рассказывает Будкевич. — Я ему говорю: мол, Фидель, ветер слишком сильный, места мало, покрытие не очень хорошее для того, чтобы это сделать. По этой же причине все конкурсы изначально были запрещены, я на протяжении всего дня предупреждал об этом и объявлял всем. Он согласился и поехал в сторону парковки. Но, не доезжая буквально 50 метров, решил все-таки подняться на заднее колесо... Он поднял мотоцикл на заднее колесо один раз и, надеясь, что он остановится быстро, во второй раз пережал передний тормоз. В результате — мотоцикл практически в нескольких метрах от парковки перевернулся и упал прямо на него. Но скорость была всего 50—80 км... Это нелепая случайность, тот трагический случай, который нельзя предугадать заранее. Просто мы его не удержали..."

**Любовь ГОРОХОВА.**
*www.tut.by*

О ВРЕМЕНА, О НРАВЫ!

# Говорят, если человек краснеет, значит, совесть у него еще осталась

*Не так давно к 75-летию Национальной академии наук (НАН) Беларуси была издана книга "Национальная академия наук: персональный состав".*



*Михаил Владимирович МЯСНИКОВИЧ*

Президент Национальной АН Беларуси
Член Бюро Президиума
Доктор экономических наук, профессор
*Направления научной деятельности:*
вопросы макроэкономики, экономической интеграции, экономической безопасности

На состоявшемся заседании президиума Национальной академии наук (НАН) Беларуси лучшие умы страны не только рассмотрели предварительные итоги работы за прошлый год, но и "дали прикурить" своему "главному" — президенту академии **Михаилу МЯСНИКОВИЧУ.**

*"Книга подытожила все то, что было сделано за эти 75 лет,* — рассказал корреспонденту "Народной воли" один из членов президиума, который присутствовал на заседании. — *Вот господину Мясниковичу открытым текстом и указали, что негоже, чтобы такая книга открывалась фотографией на всю страницу действующего руководителя академии. Таких традиций что-то никто не припомнит, если не сказать больше — это нескромно и некрасиво. Такое издание готовилось ко всем юбилеям, но никто из тогдашних президентов такого себе не позволял..."*

Говорят, что часть тиража книги была уже отпечатана, но затем печатание остановили, чтобы внести "существенные коррективы" — вставили фотографию товарища Мясниковича (который, к слову, не академик) и всех членов президиума. Получился какой-то винегрет, фотографии тех, кто является и академиком, и членом президиума, вышли в книге "в нескольких экземплярах".

По словам очевидцев, после "отлупа" от своих подчиненных Михаил Мясникович сильно покраснел. И это радует. Говорят, если человек краснеет, совесть у него еще осталась.

**Алесь СИВЫЙ.**

## Цячэ бярозавік міма вуснаў

*Прыемны і дарагі падарунак зрабіў днямі Багушэўскаму лясгасу Сенненскага раёна Мінскі завод безалкагольных напояў. Сталічныя харчавікі набылі ў лесаводаў 150 тон бярозавага соку, заплаціўшы па 170 тысяч рублёў за тону.*

А вось прадпрыемствы Віцебскай вобласці адмаўляюцца браць у багушэўцаў такі ж сок нават удвая танней — па 85 тысяч рублёў за тону.

— З кожным годам аб'ёмы нарыхтовак бярозавага соку на Віцебшчыне скарачаюцца, — гаворыць выконваючы абавязкі начальніка аддзела прамысловай вытворчасці абласнога лесагаспадарчага аб'яднання Ігар Курачкін. — Сёлета за сезон падсочкі трэба нарыхтаваць толькі 180 тон, але баюся, што і гэты мізэрны план правалім, бо прымаюць карысную сыравіну толькі тры заводы вобласці — Аршанскі кансервавы, Шаркоўшчынскі кансервава-сушыльны і Ушацкі гароднінасушыльны. Ды і яны бяруць мала, спасылаючыся на стратнасць перапрацоўкі бярозавіка і нізкі попыт на яго.

— Крыўдна, — працягвае І.Курачкін, — што не ўмеем і не хочам разумна скарыстаць тое, што дае нам прырода. Прамыславікі нават лянуюцца займацца рэкламай, расказваць людзям, што бярозавы сок выводзіць радыяцыю, ратуе ныркі ад утварэння камянёў, узбагачае арганізм мікраэлементамі. Калі нарыхтоўваць бярозавік правільна, то, не прычыняючы дрэвам шкоды, можна за сезон (2—3 тыдні) атрымаць ад сталай бярозы да 200 літраў смачнага і гаючага напою.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЧУЛІ?

## У Маскве будзе закладзена зорка Міхаіла Фінберга

*Імянная зорка народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, прафесара, мастацкага кіраўніка і дырэктара Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхаіла Фінберга будзе закладзена на Плошчы зорак каля Дзяржаўнай канцэртнай залы "Россия" ў Маскве 30 красавіка ў рамках Года культуры Беларусі ў Расіі.*

Як паведамілі БелаПАН у аркестры, такім чынам "адзначаны вялікі ўклад вядомага музыканта ў развіццё айчыннага аркестравага мастацтва і ва ўмацаванне адзінай культурнай прасторы Саюзнай дзяржавы".

У той жа дзень, 30 красавіка, адбудзецца вялікі канцэрт у зале "Россия" заслужанага калектыву канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам маэстра Фінберга. Разам з беларускімі музыкантамі і выканаўцамі ў ім возьмуць удзел вядомыя дзеячы культуры і зоркі расійскай эстрады, з якімі пастаянна супрацоўнічае Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі. Згоду на ўдзел у канцэртнай праграме ўжо далі Іосіф Кабзон, Аляксандра Пахмутава, Мікалай Дабранраваў, Валдзіс Пельш, Алёна Свірыдава, Міхаіл Баярскі, Андрэй Пятроў, Давід Тухманаў, Юрый Антонаў, Леў Лешчанка.



Гэта трэцяя зорка, закладзеная ў гонар дзеячаў беларускай культуры. Раней на Плошчы зорак у Маскве з'явіліся імянныя зоркі Ігара Лучанка і Уладзіміра Мулявіна.

## У «Кастрычніку» — «Страсці Хрыстовы»

*З 30 красавіка на працягу двух тыдняў у сталічным кінатэатры "Кастрычнік" будзе дэманстравацца нашумелы фільм "Страсці Хрыстовы" вядомага акцёра і рэжысёра Мела Гібсана.*

Фільм "Страсці Хрыстовы" — гэта ўжо трэцяя рэжысёрская работа Мела Гібсана пасля фільмаў "Чалавек без твару" і "Храбрае сэрца" (прэмія "Оскар" за лепшы фільм 1995 года).

Здымкі карціны праходзілі ў некалькіх маленькіх гарадах Італіі і занялі 10 тыдняў. Бюджэт фільма склаў 30 млн. долараў, якія Гібсан выклаў з уласнай кішэні. Прэм'еры стужкі адначасова адбыліся ў 2800 амерыканскіх кінатэатрах.

М.Гібсан задумаў праект яшчэ 12 гадоў таму. Узяўшы за аснову тэксты Пісання, ён вырашыў выкарыстаць усю магутнасць сучаснага кіно, каб расказаць аб апошніх гадзінах жыцця Хрыста максімальна рэалістычна. Паводле задумы рэжысёра, карціна найбольш поўна распавядае аб 12 апошніх гадзінах жыцця Ісуса.

У "Страсцях Хрыстовых" здымаліся акцёры з Балгарыі, Румыніі, Італіі. На галоўную ролю рэжысёр выбраў амерыканца Джэймса Кэвізела, вядомага гледачам па фільмах "Тонкая чырвоная лінія", "Асабліва цяжкія злачынствы". На ролю Марыі Магдаліны Гібсан запрасіў Моніку Белучы.

Пра гэты фільм ходзяць розныя спрэчкі і выказваюцца розныя меркаванні. Неадназначная рэакцыя на карціну і прадстаўнікоў розных хрысціянскіх канфесій.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

# Исключительный случай

*Комиссия по расследованию Международной организации труда продолжает свою работу в Беларуси. Это, кстати, уникальный случай, когда международный орган такого высокого уровня создается специально для изучения проблем определенной страны.*

Сайт www.praca-by.info сообщает, что она заслушала четырех свидетелей от Белорусского конгресса демократических профсоюзов. Встреча проходила в конференц-зале офиса Представительства ООН и длилась более четырех часов. Президент БКДП **Александр ЯРОШУК,** вице-президент **Николай КАНАХ,** юрист **Владимир ОДЫНЕЦ** и секретарь по международным вопросам **Олег ПОДОЛИНСКИЙ** рассказали о ситуации в независимом профсоюзном движении в Беларуси в целом, о взаимоотношениях власти и БКДП.

Александр Ярошук свидетельствовал о фактах вмешательства властей в дела профсоюза в период его работы в профсоюзе АПК, а также о последующих действиях властей уже после избрания его на должность президента БКДП. Александр Ярошук и его коллеги проинформировали членов Комиссии о чинимых препятствиях со стороны властей деятельности БКДП и об игнорировании профсоюзного центра как субъекта социального партнерства. Владимир Одынец рассказал о судебных преследованиях профсоюзных лидеров. Он как представитель профсоюза авиадиспетчеров в суде подробно проинформировал членов Комиссии о ходе судебного процесса по делу ликвидации этой организации. Представители БКДП передали пакет документов, подтверждающих представленные ими факты нарушений прав профсоюзов Беларуси.

После встречи с Комиссией по расследованию МОТ председатель профсоюза радиоэлектронной промышленности (РЭП) **Геннадий ФЕДЫНИЧ** поделился своими впечатлениями. *"Профсоюзы АСМ и РЭП были представлены членами первичек из всех регионов Беларуси. И это дает картину того, что это не в одном только Минске нарушали основополагающие права организации: делалось это и в Бресте, Витебске, и в других городах. От профсоюза РЭП в качестве свидетелей выступали 8 человек... Комиссия была удивлена фактами, которые изложили члены профсоюза РЭП. Многое пришлось объяснять дополнительно, было представлено большое количество документов,* — говорит Геннадий Федынич, — *они не могут понять, как аппарат ФПБ может давать разрешение первичкам сниматься с учета в той организации, где они состоят, и переходить в другую".* Профсоюзный лидер представил членам Комиссии новые данные о том, что деятельность по развалу профсоюза РЭП продолжается даже во время работы миссии МОТ.

Комиссия по расследованию МОТ заслушала активистов Независимого профсоюза автосельхозмаша (АСМ) и их лидера **Александра БУХВОСТОВА.** Напомним, что на созванном по инициативе властей и руководства ФПБ внеочередном съезде профсоюза АСМ Александр Бухвостов был смещен с поста председателя. После этого несогласные с таким решением члены профсоюза создали новую организацию Независимый профсоюз АСМ и избрали Александра Бухвостова ее лидером. В период давления на профсоюз с многочисленными нарушениями трудового законодательства был уволен ряд активистов. Среди них Иван Роман, которого уволили с Гродненского завода автоагрегатов в ноябре прошлого года за активную профсоюзную деятельность, проводимую им на предприятии. 14 апреля Гродненский областной суд отказал профсоюзному активисту в восстановлении на работе. Это решение суда стало одним из документов, представленным вниманию Комиссии МОТ и свидетельствующим о нарушении прав профсоюзов в Беларуси.

Александр Бухвостов отметил демократичный характер комиссии, ее готовность внимательно ознакомиться со всеми показаниями свидетелей. *"Комиссия требует подтверждающие документы,* — рассказывает Александр Бухвостов, — *они у нас есть, часть мы уже передали комиссии, остальные будут переданы во время слушаний в Женеве. Члены комиссии очень хорошо владеют ситуацией, они досконально изучили материалы, но им нелегко разобраться в тонкостях нашего законодательства. Например, члены Комиссии поинтересовались, почему я осенью прошлого года проводил пикетирование против нарушения прав профсоюзов в Беларуси на Октябрьской площади, а не в том месте, где разрешили городские власти".* Александр Бухвостов объяснил, что городские власти если и выдают разрешение на проведение акций протеста, то только в удаленных от центра районах города, где практически нет людей, и поэтому невозможно привлечь внимание к существующим проблемам.

На встрече с общественностью руководитель Комиссии **Будислав ВУКАС** заявил, что создание ее является самой серьезной и важной процедурой из всех предусмотренных уставом МОТ и используется только в исключительных случаях. За всю историю деятельности Международной организации труда решение о создании Комиссии по расследованию принималось лишь по отношению к нескольким странам, среди которых Колумбия, Зимбабве, Бирма.

Народная Воля 22 КРАСАВІКА 2004 г.

ФУТБОЛ

## У трох каманд стопрацэнтны вынік

**На чэмпіянаце Беларусі па футболе сярод каманд вышэйшай лігі прайшлі гульні другога тура.**

Без паражэнняў і нічыіх пасля двух тураў ідуць тры каманды — мінскае і жодзінскае "Тарпеда", а таксама мазырская "Славія".

У другім туры сталічныя аўтазаводцы перамаглі футбалістаў бабруйскай "Белшыны" — 3:0. Жодзінцы выйгралі ў магілёўскага "Дняпра-Трансмаша" з лікам 1:0, а мазыране былі мацнейшымі за брэсцкіх дынамаўцаў. Тут таксама 1:0.

Чэмпіён краіны футбольны клуб "Гомель" атрымаў мінімальную перамогу ў матчы з салігорскім "Шахцёрам" — 1:0, а вось віцебскі "Лакаматыў" разграміў у гасцях наваполацкі "Нафтан" з лікам 3:0.

Тры сустрэчы другога тура завяршыліся нічыйным зыходам. Так і не ўбачылі забітых мячоў балельшчыкі ў сустрэчы сталічных МТЗ-РЫПО і "Зоркі-ВА-БДУ". Гродзенскі "Нёман" і барысаўскі БАТЭ завяршылі супрацьстаянне паміж сабой з вынікам 1:1, а мінскае "Дынама" і "Дарыда" з Мінскага раёна заключылі нічыйнае пагадненне з лікам 2:2.

Гульні трэцяга тура пройдуць 23 красавіка. Думаецца, што найбольш цікавым будзе сустрэча паміж БАТЭ і "Гомелем".

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## Спадзяванні на Васілюка

**Кіраўніцтва брэсцкага футбольнага клуба «Дынама» дамовілася аб арэндзе на год футбаліста Рамана Васілюка, у якога з маскоўскім «Спартаком» кантракт да 2007 года**

26-гадовы форвард пачынаў сваю кар'еру ў брэсцкім "Дынама", чатыры гады таму ён перайшоў гуляць у мазырскую "Славію", у якой за 1,5 мільёна долараў яго выкупіў "Спартак". Аднак у расійскім клубе ў Васілюка пачаліся праблемы. Як прызнаўся футбаліст у інтэрв'ю БелаПАН, у яго не склаліся адносіны з трэнерам Алегам Раманцавым, а пасля траўмы сухажылля яго наогул выключылі з асноўнага саставу. Васілюк лічыць, што яму проста не далі магчымасці праявіць сябе. Да нядаўняга часу вяліся перамовы аб магчымым продажы футбаліста ў адзін з кітайскіх клубаў, аднак ён сам адмовіўся ад перспектывы паехаць у Кітай.

19 красавіка пасля чатырохгадовага перапынку Раман Васілюк выйшаў на поле стадыёна "Брэсцкі" ў складзе каманды "Дынама". І хаця "Дынама" прайграла "Славіі" з лікам 0:1, новы трэнер дынамаўцаў Віктар Несцярэнка спадзяецца, што футбаліст праявіць сябе і пакажа выдатную гульню.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**
**photo.bymedia.net**



**22 красавіка**

**ЧАЦВЕР**
Усх. 5.53 Зах. 20.26
Даўж. дня 14.33
Маладзік
19 красавіка



Чытайце нас у Інтэрнеце:
http://nv.promedia.by

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Кветкі для таты

Змяркалася. Мікола Крукоўскі перад сном выйшаў на ганак пакурыць. З аселіцы даносіўся водар падсохлага мурагу, і ён пашкадаваў, што не склаў сена ў копкі: а раптам ноччу дождж? Але за дзень так натросся ў калгасным грузавіку, што нават не хацелася варушыцца. За плотам, на суседнім двары, стукнула брамка, і жаночы голас ласкава паклікаў:

— Толік, Іра, ідзіце вячэраць!

Адразу ж па сцежцы затупалі дзіцячыя ножкі. Недзе з сяней данёсся вясёлы голас гаспадара. Ён сказаў нешта смешнае, бо і жонка, і дзеці аж зайшліся ад рогату.

І Мікола пазайздросціў ім. Яго хата, новая, бадай ці не лепшая ў вёсцы, ніколі не чула дзіцячых галасоў, такога шчаслівага смеху. Зайздросціў ён суседу і таму, што жонка ў яго вабная, пухленькая, як свежая булачка. Даяркай у калгасе працуе, а прыбіраецца лепш за іншую настаўніцу. А вось гэта Мікола асуджаў. Навошта бабе тыя ўборы, калі яна замужам. Ён сваёй Кацярыне такога не дазваляе. Не патрэбна яно. Хоць і працуе Кацярына фельчарам на ФАПе, увесь час на віду, сярод людзей, а як выйшла за яго замуж, то, лічы, ніводнай добрай рэчы не знасіла. Можа, таму ў свае сорак пяць выглядае значна старэйшай. Купіла б, пэўна, і яна сабе што, але ўсе грошы ў Міколы. І свае, і жончыны пераводзяцца ў долары, на чорны дзень.

Чаго ўсё жыццё не шкадаваў для жонкі Мікола, дык гэта работы. Пастаянна трымаюць карову, цяля, курэй, свіней. І ўсё гэта ляжыць на жончыных плячах, бо яму за калгаснай работай няма калі.

— Навошта нам усё гэта? — не раз казала Кацярына. — Каб хоць дзеці былі, а так — дзеля каго стараемся?

— Дык што, можа ўсё заробленае на вецер пусціць, на ўсякія пудры-шмудры, як суседка? Капейка чалавеку ніколі не пашкодзіць, каб ты ведала.

Ён прыйшоў у хату, калі жонка ўжо спала. Патушыў святло, лёг у прыемны халадок пасцелі, перад сном абдумваючы, што тэрміновае трэба будзе зрабіць заўтра.

А раніцай, ідучы на працу, сустрэў свайго сябра Антося Купрэйчыка, разам з якім некалі вучыліся ў школе і які быў жанаты на вядомай ва ўсёй ваколіцы пляткарцы Зосі.

— Слухай, што я табе скажу, — зацягнуўшыся цыгарэтным дымам, таямніча прамовіў Антось. — Мая ўчора пляла, нібыта твая Кацярына закруціла раман з тым прыезджым мужыком, што купіў Канаплісіну хату. Ну, тую, што воддаль ад вёскі, лічы, на хутары. З чарнобыльскай зоны яны перасяліліся. Жонка ў яго летась памерла. Двое дзетак пакінула. Памятаеш?

— Памятаю. Дык ён жа хворы. Я неяк бачыў. Аж свеціцца ўвесь, такі худы. Яна яго лечыць.

— Можа, і лечыць, я нічога супраць не маю. Але нешта часта там бывае. Не як лекарка, разумееш? Мая казала...

— А ідзі ты! І сваю з сабою вазьмі. А мая за работай свету белага не бачыць.

— Ну, як ведаеш. Я табе сказаў.

"Раз гавораць, значыць, нешта ёсць. У вёсцы ад людзей не схаваешся", — цэлы дзень свідравала галаву думка. Але Мікола нічога не сказаў пра сваю трывогу.

— Калі гэта так, то я зусім нічога не разумею, — у разгубленасці думаў Мікола. — Я яшчэ мужчына спраўны, у хаце вялікі дастатак. Нядрэнна зарабляем, па вясковых мерках, вядома. Машыну летась купілі. Ды і не такая Кацярына кабета, каб круціць шашні.

Усё праяснілася ў адзін вечар. Мікола прыйшоў з работы позна і быў вельмі здзіўлены, што з хлява выйшла з дайніцай жончына стрыечная сястра.

— Вось дык гаспадыня! А дзе ж мая?

— На кухонным стале ляжыць запіска. З яе ўсё даведаешся, — хаваючы вочы, прамовіла сваячка.

"Усё, што гавораць у вёсцы, праўда. Я перайшла да Курчатава. Узяла толькі сваю вопратку, усё астатняе пакідаю табе. Жыві як ведаеш. Я да цябе не вярнуся".

Літары плылі перад вачыма. Такога ад сваёй Кацярыны ён не чакаў. Сабраўся з сіламі і зазірнуў у шафу: яе адзення не было.

"Значыць, гэта не сон", — падумаў з болем і горыччу.

І на рабоце, і на вясковай вуліцы ўсе глядзелі на яго, як на цяжкахворага. Вясковыя кабеты мянцілі языкамі направа і налева, асуджаючы Кацярыну, бо, па іхнім разуменні, такія мужчыны, як Мікола, на дарозе не валяюцца. "Здурнела баба", — быў іхні прысуд. Але адкрыта асуджаць Кацярыну баяліся. Фельчарка ўсё ж, ці мала што ў жыцці можа здарыцца. Да яе ў самыя цяжкія хвіліны бягуць усе.

Высвятляць адносіны Мікола да былой жонкі не пайшоў. Калі бачыў яе на вясковай вуліцы, пераходзіў на другі бок. Так мінулі лета, восень, зіма. А ў сакавіку вёску абляцела навіна: памёр перасяленец, пакінуў двух малых хлопчыкаў.

Мікола на пахаванне не хадзіў, хоць хадзіла амаль уся вёска. Хто паспачуваць чужому гору, а хто — паглядзець, што ж там робіць Кацярына, як паводзіць сябе ў такой далікатнай сітуацыі?

— От, пахаваць-то яна яго пахавае, а потым здасць дзяцей у дзіцячы дом, а сама вернецца да Міколы, — разважалі некаторыя вясковыя кабеты.

— Калі пры́ме, — няпэўна казалі другія.

Мікола таксама лічыў, што былая жонка будзе прасіцца назад, і цвёрда вырашыў для сябе: не прымаць.

Але міналі дні, месяцы, а яна не прасілася. І хлопчыкаў нікуды не здавала. Кожны дзень хадзіла на працу, тупала па гаспадарцы на сваім хутары.

Першага верасня хлопчыкі-блізняткі пайшлі ў школу, у першы клас. Былі хораша апранутыя, з акуратна прычэсанымі бялявымі галоўкамі, і вясковыя жанчыны, гледзячы на сіротак, змахвалі слёзы.

— Малайчына, Кацярына, добра дзетак даглядае, — казалі з павагай.

— Маму ім замяніла. Значыць, не будзе хлопчыкаў здаваць і сама да Міколы не вернецца.

Зноў пакаціліся дні. Міколу разбірала цікавасць: як яны там жывуць? Злосць, што была некалі, прайшла, і ён думаў пра жонку і хлопчыкаў нават з нейкай цеплынёй: "Можа, дроў у іх няма, а зіма ж такая халодная. Трэба схадзіць паглядзець..."

І ўсё ніяк не адважваўся. Толькі перад самым Новым годам, калі лютаваў мароз, ясным вечарам ён патупаў на хутар. Дзверы былі замкнёны з сярэдзіны, і Мікола пастукаў у шыбу.

— Хто там? — пазнаў ён голас Кацярыны.

— Гэта я, Мікола. Не бойся, пусці ў хату.

Мусіць, жанчына разважала, адчыняць ці не, бо ў хаце не было ніякага руху. Потым у сенях ляснула засаўка.

Мінуўшы прасторныя сені, увайшоў у хату. Тут было цёпла і ўтульна. На стале ў глыбокай місцы дымілася вараная бульба, відаць, сям'я рыхтавалася да вячэры. Два хлопчыкі ўжо сядзелі за сталом і, калі парог пераступіў чужы дзядзька, насцярожыліся.

— Вячэрайце, вячэрайце, я перашкаджаць не буду, — лагодна сказаў Мікола і адчуў, што на сэрцы зрабілася цёпла, што апанаваў яго даўно забыты спакой.

— То сядай і ты з намі, — прапанавала Кацярына. — Зараз гуркоў прынясу. Катлеты ўжо разагрэла.

Ён хоць і вячэраў ужо, аднак адмовіць не мог, каб не падумала, што прыйшоў сюды высвятляць адносіны ці ў нечым яе папракаць.

— Можа, вам што трэба? Можа, дроў няма? — пацікавіўся пасля вячэры.

— Дзякуй, дровы ёсць. Мука вось для свіней канчаецца. У магазіне ёсць, але няма на чым прывезці. Можа, ты дапаможаш, калі не цяжка?

— Мне не цяжка, а вось табе, мусіць, хапае? І як ты адважылася ўзваліць на сябе такі груз? — сказаў ён і падумаў, што без высвятлення адносін не атрымліваецца.

Але Кацярына не пакрыўдзілася.

— Ім было вельмі цяжка. Бацька моцна хварэў, дзеці без догляду. Я ім была патрэбна. А табе ўжо не... Ты ўва мне ўжо даўно жанчыны не бачыў. Жыла, нібы наймічка.

Назаўтра з раніцы ён прывёз ёй мукі, а вечарам прыйшоў, каб нанасіць са склепа бульбы.

У пачатку лютага вяскоўцы са здзіўленнем назіралі, як Мікола перавозіў на хутар свае пажыткі, перавёў карову.

Ён мог бы забраць да сябе жонку і хлопчыкаў, але яна папрасіла:

— Сыночкам тут будзе лепей. Яны прывыклі да гэтай хаты, тут жылі і памерлі іх родныя бацькі.

Ніхто хлопчыкаў не прасіў і не вучыў, яны самі ўжо даўно называлі Кацярыну мамай. Мікола ўпотай зайздросціў ёй. І вось на 23 лютага, Дзень абаронцаў Айчыны, хлопчыкі прыйшлі са школы ўзрушаныя. Мікола якраз абедаў.

— Тата, віншуем цябе са святам! — падышлі і працягнулі яму дзве карцінкі, на якіх былі намаляваны блакітныя лясныя званочкі. Хлопчыкі засаромеліся, пачырванелі і не ведалі, што казаць далей.

— Дзякую, сынкі, — дрыготкім голасам прамовіў Мікола. Ён абняў дзяцей і моцна прытуліў іх да сябе. Па абветраных шчоках пакаціліся дзве слязінкі...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

## «Канскія львы» былі ў Мінску

*У Мінску прэзентавалі лепшыя ролікі найбуйнейшага міжнароднага рэкламнага форуму "Канскія львы" Маскоўскага і міжнароднага фэсту рэкламы.*

Гледачам было прадстаўлена ўсяго 100 ролікаў — пераможцаў гэтых буйных фэстаў. Беларускаму тэлегледачу добра вядомыя рэкламныя ролікі-пераможцы ***"Нэскафэ"*** *(яшчэ адно лета ў Арктыцы)* і ***"Ярпіва"***. Сярод ролікаў, якія атрымалі ўзнагароды розных ступеняў, былі рэкламы такіх марак, як *"ІКЕА"*, *"БМВ"*, *"Фольксваген"* і іншых.

Рэакцыя беларускіх гледачоў, што сабраліся ў канцэртнай зале "Мінск", сведчыла пра тое, што ім больш за ўсё спадабалася рэклама прэзерватываў і *"празрыстая, як шкло"* рэклама "МакДональдс".

**Антон ЛЮБІЧ.**

## У Нью-Йорку выйшлі «Запісы»

***Выйшаў у свет 27-ы нумар часопіса "Запісы", які выдае Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (ЗША). Як паведаміла адзін з рэдактараў нумара Наталля Гардзіенка, у яго ўвайшлі тэксты пра дзейнасць беларускай эміграцыі і яе спадчыну.***

Першы раз у часопісе публікуюцца фотаздымкі беларускіх могілак, якія знаходзяцца ў розных краінах свету — Польшчы, Чэхіі, Францыі, ЗША, Аўстраліі, Канадзе, Англіі, і прадмовы да іх.

Акрамя таго, у нумары перадрукавана вельмі рэдкае выданне літаратурна-мастацкага часопіса "Крыніца" літаратурнага гуртка Мінскага педтэхнікума за лістапад 1929 года і раней не публікаваныя запісы і ўспаміны паэта-эмігранта Янкі Юхнаўца.

Першы нумар часопіса "Запісы", прысвечанага культуры і гісторыі беларускага замежжа, выйшаў у 1952 годзе ў ЗША, і да 2001 года "Запісы" публікаваліся там. У рэдакцыйную калегію часопіса ўваходзяць як прадстаўнікі беларускага замежжа, так і мясцовыя дзеячы культуры, у тым ліку Генадзь Сагановіч, Зміцер Саўка, Юрась Станкевіч. Часопіс выходзіць раз на год. Набыць яго можна ў офісах Партыі БНФ і грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

**Лавінія АРЭШКА.**

ШАШКІ

## Завяршаем конкурс

Завяршаем класіфікацыйны конкурс-14. У якасці апошніх заданняў падаём кампазіцыі гросмайстра СССР Леаніда Вітошкіна (Гомель), кандыдатаў у майстры спорту Івана Наўроцкага (Мінск) і Уладзіміра Сапяжынскага (Рагачоў):

**№10. Белыя:** дамкі b4, h2, простая e3 (3).

**Чорныя:** a7, b2, g7, h6 (4).

**Выйгрыш** (тры ачкі).

**№11. Белыя:** b6, c5, c7, d6, e1, e7, f6, h6 (8).

**Чорныя:** b2, c3, d8, e3, f4, f8, g5, h4 (8).

**Перамога белых** (тры ачкі).

**№12. Белыя:** дамка d8, простыя a3, b4, c3 (4).

**Чорныя:** дамка b6, простыя a3, a7 (3).

Таксама **выйгрыш белых** (чатыры ачкі).

Адны з пераможцаў конкурсу атрымаюць прызы аўтараў заданняў — кнігі Я.Шауса "Школа игры в международные шашки" (Масква, "Физкультура и спорт", 1981 г.), Ж.Верна "Двадцать тысяч лье под водой" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 1978 г.) і А.Гантварга "50 паядынкаў на 100 клетках" (Мінск, "Полымя", 1986 г.).

Тэрмін для адказаў — традыцыйных два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**

## Чэмпіянаты, мемарыял, конкурс

Завяршыўся чэмпіянат краіны па шашках-100 сярод жанчын. Упэўненую перамогу ў ім атрымала міжнародны гросмайстар Ірына Пашкевіч, якая ўзначальвае Федэрацыю шашак Беларусі. Яна набрала 16 ачкоў з 20 магчымых. Другой медалісткай стала міжнародны майстар Вольга Садоўская. У яе актыве — 14 ачкоў. На два ачкі адстала нацыянальны майстар Наталля Герасімовіч. Ёй дастаўся бронзавы медаль. Кандыдаты ў майстры спорту Таццяна Лебедзева і Святлана Гарбачэнка — на чацвёртым і пятым месцах. Яна засталіся ў вышэйшай лізе. Усе пяцёра — мінчанкі.

Паведаміў па тэлефоне кандыдат у майстры спорту Вільям Астрынскі.

У XII чэмпіянаце рэспублікі па складанні задач-64 месцы размеркаваліся так: 1. Л.Вітошкін (12,5 ачка), 2. М.Зайцаў (12,25), 3. Б.Іваноў (10,5), 4. А.Ляхоўскі (6,75), 5. К.Тарасевіч (6,5), 6. А.Шурпін (6), 7. П.Кажаноўскі (3). Чэмпіён Л.Вітошкін і трэці прызёр Барыс Іваноў (Мінск) — нашы пастаянныя аўтары.

Інфармаваў нас майстар Гары Далідовіч.

У чэмпіянаце Гомеля па шашках-64 вызначаліся майстар Яўген Кандрачэнка (16 ачкоў з 18), кандыдаты ў майстры Ігар Даўгаполаў (13) і Эдуард Харошын (12).

Пазнаёмцеся з камбінацыйным фрагментам гэтага спаборніцтва:

**Белыя** (Я.Кандрачэнка): c1, c3, d2, d4, f4, h4, h6 (7).

**Чорныя** (Г.Цыкуноў): a3, a5, b4, b6, d6, f6, f8 (7).

1.de3 2.fg5 3.g:a7x.

Прайшоў чарговы мемарыял слонімскіх шашыстаў М.М.Мялешкі і М.В.Крата. Ён сабраў 26 ігракоў з пяці абласцей рэспублікі. Карэспандэнт нашай рубрыкі "Шашкі" Я.Кандрачэнка і тут паказаў свой высокі клас, запісаўшы на свой рахунак 15 ачкоў. Менавіта ад яго мы даведаліся, што другое—пятае месцы занялі майстры Аляксандр Андрыянаў (Ваўкавыск) — 14, Віталь Аніська (Слонім) — 13, Кірыл Хайнюк (Мінск) — 12 і кандыдат у майстры Мікалай Салейка (Баранавічы) — 11.

Заслугоўваюць увагі наступныя прыклады:

**1.Белыя** (Я.Кандрачэнка): a3, a5, d2, e3, f2, f4, g3, h2, h4 (9).

**Чорныя** (В.Ланец): b6, c5, c7, d6, e5, e7, f6, g7, h6 (9).

1.dc3 ed4 2.c:e5 3.ab4 4.e:a7 ab2 5.fg5! 6.g:e5 7.ab8. Чорныя здаліся.

2.Белыя (М.Салейка): a3, c3, d2, e1, g1, h6 (6).

Чорныя (Я.Кандрачэнка): a5, c5, d6, f4, h4, h8 (6).

У партыі было празаічна: 1.gh2 hg3 2.de3 3.h:f4 bc3 4.fg5 cd4 5.gf6 de3 і г.д. з выйгрышам. А як бы вы згулялі за чорных пасля 1.ef2? Чакаем адказаў.

"На жаль, напярэдадні турніру пайшоў з жыцця вядомы слонімскі майстар Іван Мікалаевіч Мялешка, — піша Я.Кандрачэнка. — Пасля заканчэння спаборніцтваў яго ўдзельнікі ўсклалі кветкі на могілках шашыстаў, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё старадаўняй гульні".

У трэцім міжнародным конкурсе пінскай газеты "Варяг-ПРЕСС" па складанні камбінацыйных мініяцюр-64 у першую тройку прызёраў увайшлі Рушан Валееў, Расія (20,25 ачка), нашы чытачы Аляксандр Кагоцька, Пінск (18,5) і Іван Наўроцкі, Мінск (17,75). У дзесятку лепшых таксама трапілі А.Сапегін (11,75), Л.Вітошкін (11,5), В.Грабенка (10,25), М.Крыштась (10), П.Кажаноўскі (8,25), В.Сцяпанаў (7,5) і І.Белавус (6,5).

Аб выніках конкурсу расказаў нам яго арганізатар і ўдзельнік кандыдат у майстры Аляксандр Кагоцька.

## Радкі з пісьмаў

"Ездзіў у госці ў вёску Падгорная Баранавіцкага раёна — на сваю малую радзіму, — піша Павел Каролік з Гомеля. — Зрабіў падарунак мясцовай школе з шашачных кніжак — там дзейнічае шашачны гурток. Паабяцалі ўдзельнічаць у нашых конкурсах".

"Дзякуй за прыз майстра Пятра Шклудава з Наваполацка — зборнікі партый у адваротныя шашкі, — працягвае Леанід Мінчук (г.п.Капаткевічы). — Шчыра кажучы, яны мне даспадобы больш за рускія шашкі — за шмат галаваломных і самых неверагодных варыянтаў".

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ,**
**майстар спорту.**

ШАХМАТЫ

## Решите задачу

**Л.Богатырев**

**Белые:** Крb2, Фf5, Лс5, Лd1 (4).

**Черные:** Кра8, Фb7, пп. b4, f3, f4, g7 (6).

**Мат в 3 хода.**

Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная воля", "Шахматы".**

**Сверьте решение**

**Двухходовка А.Сокольского** (опубликована 11.03.): **1.Са5!**

**Задача А.Каменского** ("Народная воля" за 04.03.): **1.Сf1!**

**Композиция В.Чепижного** (опубликована 25.03.): **1.Kd3!**

**Задача-лауреат** ("Народная воля" за 08.04.): **1.Крf7!**

Свои ответы на композиции прислали тт. Кравченко (Хойникский район), Борсук (Витебск), Голев (Осиповичский район), Мороз (Могилев), Раткович (Вилейский район), Буканов, Литвинов, Зверев, Розум, Шинкевич, Крылов (Минск).

## *Шахматный калейдоскоп*

## Не видя доски и быстро!

В Монако состоялся 13-й "Амбертурнир", в котором приняли участие сильнейшие шахматисты мира. Это необычное соревнование много лет организует за свой счет голландский меценат и миллионер ван Остером. В свое время он успешно играл в турнирах, стал международным мастером, выступал в составе сборной команды Голландии. "Амбертурнир", призовой фонд которого составляет почти 200 тысяч долларов, включает соревнования по быстрым шахматам и игре вслепую. В каждом туре участники проводят между собой две партии в этих видах. 13-й "Амбертурнир" собрал элитный состав участников во главе с чемпионом мира по классическим шахматам Владимиром Крамником и чемпионом планеты по быстрым шахматам 2003 года Вишванатаном Анандом (Индия). В турнире велся раздельный зачет по быстрым шахматам и игре вслепую, а также определялся сильнейший и в общем зачете. В напряженнейшей борьбе в общем зачете победителями стали Владимир Крамник и московский гроссмейстер Александр Морозевич, набравшие по 14,5 очка из 22 возможных. На очко меньше в активе В.Ананда, занявшего третье место. На последующих местах: 4.Василий Иванчук (Украина) — 13 очков, 5—6.победитель соревнований претендентов на матч с чемпионом мира Петер Леко (Венгрия) и Евгений Бареев (Россия) — по 12,5, 7.чемпион России Петр Свидлер — 11,5, 8.Алексей Широв (Испания) — 10,5, 9.Веселин Топалов (Болгария) — 10, 10.Борис Гельфанд (Израиль) — 8,5, 11.Ван Вели (Голландия) — 7,5, 12.Франциско Вальехо (Испания) — 3,5.

В игре вслепую не было равных Морозевичу, набравшему 8,5 очка из 11. Второй результат у Крамника — 8 очков, третий — у Иванчука — 7. Ананд оказался сильнейшим в быстрых шахматах, набрав в 11 встречах 7,5 очка. В тройку лучших вошли также Бареев — 7 очков и Крамник — 6,5.

## Финалисты определены

В полуфинале чемпионата Минска по шахматам среди мужчин приняли участие 45 спортсменов, в том числе 29 кандидатов в мастера. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. В острейшей борьбе, исход которой определил лишь последний тур, победителем стал кандидат в мастера Михаил Клиза, набравший 7,5 очка из 9. На пол-очка отстал кандидат в мастера Геннадий Шеходанов. В первую десятку, которая получила право выступить в финале чемпионата столицы, вошли также кандидаты в мастера Валерий Гордиеня, Сергей Левченко — по 6,5 очка, Сергей Хамицкий, Алексей Черепов, Владимир Куценков, Юрий Прутиян и Валерий Скидан — по 6 очков.

Следует отметить успех самого молодого участника 10-летнего Владислава Ковалева. Он набрал 5,5 очка и выполнил норму кандидата в мастера!

## В комбинационном стиле

В главном турнире традиционного международного шахматного фестиваля "Аэрофлот-2004", проходившего в Москве, приняло участие рекордное число гроссмейстеров — 164. В соревнованиях участвовали и белорусские спортсмены. Лучший результат показал могилевчанин международный гроссмейстер Алексей Федоров — 6,5 из 9, что принесло ему дележ мест с 4-го по 16-е. Другой наш гроссмейстер Алексей Александров, занимавший места в первой тройке в 2002-м и 2003 годах, на этот раз выступил слабее. Набрав в 7 партиях 4 очка, он выбыл из турнира. Международный мастер Андрей Жигалко сумел набрать 4 очка в 9 встречах и финишировал на 133-м месте. Его брат, 15-летний Сергей Жигалко, набрал 3,5 очка и занял 168-е место.

В турнире "Б" участвовал минчанин кандидат в мастера Михаил Гинзбург. Он показал 50-процентный результат — 4,5 очка из 9, 114-е место.

В турнире было сыграно много интересных партий. Вот одна из них, в которой судьбу поединка решила эффектная комбинация.

**В.Малахов — С.Двойрис**
**Сицилианская защита**

1.Kf3 c5 2.e4 Kc6 3.Kc3 d6 4.d4 cd 5.K:d4 Kf6 6.Cg5 Фb6 7.Kb3 e6 8.Фd2 Ce7 9.f3 o-o 10.Ce3 Фc7 11.Фf2 d5! Воспользовавшись задержкой белых с рокировкой, черные вскрывают игру. 12.ed Kb4! 13.de C:e6 14.Kd4 (Теперь рокировка не проходила ввиду 14...K:a2+ 15.K:a2 C:b3) 14...Лad8 15.a3? (Следовало играть 15.Cd3) 15...Kbd5 16.K:e6 fe 17.K:d5 (Плохо 17.Cd4 ввиду 17...K:c3 18.C:c3 Ke4!) 17...K:d5 18.Cd3 Фe5 19.Ce4 Kf6! 20.Фh4 C:a3!! Блестящий удар! 21.o-o (Если 21.Л:a3, то Ф:b2, и белым не избежать материальных потерь) 21...C:b2 22.Лad1 (Плохо 22.Л:a7 из-за 22...Cd4 23.Лa3 Фc5!) 22...Л:d1 23.Л:d1 a5 24.Cc1 Cd4+ 25.Kph1 K:e4 26.Ф:e4 Ф:e4 27.fe b5 28.g3 e5 29.Cd2 b4 30.Ce1 Лc8. **Белые сдались.**

## Четверг, 22 апреля

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 19.55** "Деловая жизнь".
**09.05, 19.05 "Американский дядюшка"**. Сериал.
**10.05, 20.00 "Семнадцать мгновений весны"**. Сериал.
**11.05, 17.30 ""Богатые и знаменитые"**. Сериал.
**12.10** "Евровидение-2004".
**12.25 "Отелло"**. Трагедия.
**14.15** "Точка".
**15.10 "Студенческая жизнь"**. Сериал.
**16.05** "5х5".
**17.15** "Специальный репортаж".
**18.30** "Новая коллекция".
**21.00** "Панорама".
**21.50 "Дело "Филантропа"**. Видеофильм.
**22.00** "Права человека. Взгляд в мир".
22.10 "Генерал". Киноповесть.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон"**. Сериал.
**10.35, 23.25** "Фабрика звезд-4".
**11.00** "Дисней-клуб".
**14.55** "Город женщин". Телевизионное шоу.
**15.55 "Берег мечты"**. Сериал.
**16.50** "Большая стирка".
**20.00** "Время".
**21.00 "Евлампия Романова: следствие ведет дилетант"**. Сериал.
**22.05 "Улицы разбитых фонарей"**. Сериал.

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55 "Любовь слепа"**. Сериал.
**08.50** "Короткое замыкание". Ток-шоу.
**09.45, 23.15** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести—Москва".
**10.50** "Что хочет женщина". Ток-шоу.
**11.50, 21.00 "Ключи от бездны. Охота на призраков"**. Сериал.
**16.10 "Крот-2"**. Сериал.
**17.10 "Закон"**. Сериал.
**18.00 "Комиссар Рекс"**. Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**22.00** "Вести +".
**22.20** "И все-таки "Таганка"!".
**23.30 "Легенды осени"**. Боевик.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Площадь искусств".
**08.35 "Россия молодая"**. Сериал.
**09.20** "Ералаш".
**09.35** "Здоровье".
**10.05, 17.55** "Между нами, женщинами".
**10.30, 21.15 "Грешная Анхелика"**. Сериал.
**11.15, 13.05** "Обычный необычный день".
**11.45 "Близнецы"**. Комедия.
**13.35** Мультфильмы.
**14.10** "Мультиклуб".
**15.05 "Команда "SOS"**. Сериал.
**15.30** "Не зевай!".
**15.40** "Бум".
**16.15** "Из архивов БТ".
**16.45 "Угрюм-река"**. Кинороман. **"Предательство"**.
**18.15 "Хождение по мукам"**. Кинотрилогия. **"Пасмурное утро"**.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**22.05 "Россия молодая"**. Сериал.

**НТВ**

**09.00** "Сегодня утром".
**09.25** "Квартирный вопрос".
**10.20** "Страна советов". Ток-шоу.
**11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**14.35** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.30 "Дальнобойщики". "Свой бизнес"**. Сериал.
**17.35** "Протокол".
**18.40, 23.20 "Мур есть мур"**. Сериал.
**19.45 "Пятый ангел"**. Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "К барьеру!".
**22.40** "Тайны разведки".

**СТВ+RenTV**

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25, 15.40 "Пауэр Рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе"**. Сериал.
**06.50** "Супер-шоу братьев Марио". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05** "Светская хроника".
**08.20, 23.05** "Технология".
**08.35** "Судьбы своей хозяйка".
**09.00 "Их называли "СМЕРШ"**. Видеофильм.
**09.20 "Хозяин ночи"**. Драма.
**10.55** "Запретное королевство". Док.фильм.
**11.30** "Ессе Номо".
**11.45, 20.40** "Фильм, фильм, фильм".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Дикая планета".
**13.50, 18.30 "Подари мне жизнь"**. Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Остаться без пляжа"**. Сериал.
**15.15** "Рыцари света".
**16.00** "Веселые баксы".
**16.15** "Добро пожаловаться...".
**17.00 "Супертеща для неудачника"**. Сериал.
**18.15** "Театральные истории".
**20.15** "Тема дня".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.55 "Миротворец"**. Драма.
**23.15** "Турпоход".
**23.25** "Новости мировой шоу-индустрии".
**23.55 "Секретные материалы"**. Сериал.
**00.40** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45 "Операция трест"**. Многосерийный фильм.
**19.00** "Палитра".
**19.25** "Атомик Филмз и "К-видео" представляют...
**19.30** "Адъютант его превосходительства". Сериал.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Региональный репортаж".
**21.15 "Судья Дредд"**. Боевик.

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45, 18.55 "Тайный знак-2"**. Сериал.
**08.45, 19.55 "Сезон охоты-2"**. Сериал.
**09.40** "Войди в свой дом".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "А у нас во дворе...".
**11.40** "Квадратные метры".
**12.00** "Доходное место".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс"**. Сериал.
**14.20, 18.40** "Экспо-новости".
**14.30** "21 кабинет".
**15.00** ""Регионы: прямая речь".
**15.30** "Тайна зеленой комнаты".
**16.00 "Уголовная полиция"**. Сериал.
**17.15** "Московские перекрестки".
**18.00 "Страсти по Саломее"**. Сериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы".
**21.40** "Секретные материалы: расследование ТВЦ".
**23.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** ""Музыкальный серпантин".
**00.00 "Принцесса Мария Бонапарт"**. Мелодрама.
**00.45** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30** Керлинг.
**12.30, 15.30, 16.00, 18.00, 22.00** Снукер. Чемпионат мира.
**13.30** Олимпийские игры.
**14.00, 16.30, 19.00** Тяжелая атлетика.
**21.00** Супергонки по выходным.
**23.45** Новости "Евроспорта".
**00.00, 01.00** Футбол.



**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс(017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.
E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Індэкс 63222.**

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 790 экз. Заказ № 631.